*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2021, № 4(63). Красавік

# Геральдычны габелен слонімскай мануфактуры Агінскага

У Галерэі старажытнага мастацтва Нацыянальнага музея ў Варшаве захоўваецца каштоўны экспанат — геральдычны габелен слонімскай мануфактуры Міхала Казіміра Агінскага. У апісанні паведамляецца, што ён быў створаны ў Слоніме ў 1788 годзе ў майстэрні Ёгана Карла Клетша.[1]Гэта быў майстра, запрошаны з Саксоніі. Ён таксама выканаў 12 габеленаў з выявамі антычных багоў.[2] Частка гэтай калекцыі захавалася.[3]

Пры вырабе геральдычнага габелена былі выкарыстаны металічныя ніткі, шоўк і шэрсць. Яго выява ёсць у кнізе даследчыка Анджэя Цеханавецкага, але з подпісам *“Керамічны экран, зроблены ў Слоніме для караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага”*.[4] Гэта сапраўды мог быць падарунак каралю, паколькі ў цэнтры герба Рэчы Паспалітай бачым герб Панятоўскіх.

Што здзіўляе, дык гэта выява крыжа на кароне. Такое складваецца ўражанне, што яго “дарабілі” ў пазнейшы час і не вельмі ўдала. І крыж не такой формы, які звычайна бачым на гербе. Пры гэтым, магчыма, была знішчана нейкая іншая, арыгінальная дэталь. Гэтую здагадку можна было б праверыць на адвароце габелена, але якраз яго верхняя частка прыкрытая тканінай.

●Генадзь Гурскі



*[1]Warsztat Johana Carla Kletscha // https://cyfrowe.mnw.art.pl/pl/katalog/462222*

*[2]Piwocka M. Gobeliny Michała Kazimierza Ogińskiego // Spotkania z zabytkami (Варшава), 2016, № 11-12. Лістапад-снежань. С. 65.*

*[3]Гурскі Г. У Кракаве выстаўляліся слонімскія габелены Міхала Казіміра Агінскага // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 1, 4-5.*

*[4]Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго “сядзіба музаў” у Слоніме. — Мінск, 2006.*

# Гісторык з вёскі Мялканавічы

15 сакавіка споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, доктара гістарычных навук, прафесара Васіля Іванавіча Мялешкі (1921 — 2004). З ім я шчыра сябраваў. І хоць быў ён на шмат гадоў за мяне старэйшы, але па-зямляцку адносіўся да мяне даволі прыветліва, без ніякай высакамернасці, а з радасцю заўсёды вітаў у сваёй мінскай кватэры, ці падчас нашых сустрэч на роднай Слонімшчыне.

Васіль Іванавіч мне шмат дапамагаў, калі я ў яго пытаўся наконт гісторыі Беларусі, ці гісторыі Слонімскага краю. Бо ён ведаў пра Слонімшчыну больш, чым я тады. І гэта зразумела: у 1962 годзе ў Мінску ён асобнай кнігай выдаў першы пасляваенны гістарычны нарыс "Слонім".

У маёй хатняй бібліятэцы да сённяшніх дзён захоўваюцца амаль усе кнігі Васіля Мялешкі. І многія з аўтографамі. На кнізе "І ўзняўся люд просты" (яна напісана разам з Паўлам Лойкам) ён пакінуў словы: *"Дарагому Сяргею Чыгрыну на добры ўспамін аб нашым сяброўстве. Васіль Мялешка. 31.08.1992 г."*.

Ён любіў мяне сустракаць і частаваць у сваёй вялікай мінскай кватэры, дзе было шмат кніг, часопісаў, газет і фотаздымкаў. Сёе-тое падараваў мне са сваёй прыватнай бібліятэкі. Гэтымі кнігамі карыстаюся часам і сёння, успамінаючы Васіля Іванавіча.

Вядомы вучоны, гісторык, педагог і архівіст Васіль Мялешка нарадзіўся ў далёкім Томску, калі яго бацькі знаходзіліся ў бежанстве. Сям'я ў іх была вялікая. Але неяк перажылі бежанства і вярнуліся на родную Слонімшчыну ў вёску



Васіль Мялешка

Мялканавічы, дзе і прайшлі дзіцячыя, юнацкія гады Васіля. Амаль дзесяць гадоў прытулкам для сям'і Мялешкі быў наняты звычайны вясковы хлеў. Там і жылі пасля бежанства. Толькі ў 1930-я гады ім удалося збудаваць уласнае жыллё.

Вярнуліся Мялешкі з бежанства, калі Слонімшчына знаходзілася пад Польшчай. Не ўсе маглі тады вучыцца і скончыць нават пачатковую школу.

З-за беднасці, каб неяк хоць крыху дапамагчы бацькам матэрыяльна, старэйшы брат Васіля Міхаіл пайшоў батрачыць да багатага чалавека на хутар, які знаходзіўся недалёка ад мястэчка Азярніца.

У хату Мялешкаў часта заглядвалі паліцыянты. Яны сачылі за старэйшым братам Васіля Уладзімірам, які належаў да камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. Аднойчы брата паліцыянты схапілі, ён быў асуджаны за падпольную дзейнасць на 8 гадоў зняволення. Усё гэта бачыў Васіль. Ужо ў тыя гады ў яго сфарміраваліся погляды на існуючую несправядлівасць,



*Кнігі Васіля Мялешкі*

на прыніжанае становішча беларусаў. Беззаконнасць і самавольства польскіх уладаў у 1930-я гады вымусілі Васіля Мялешку пайсці па шляху старэйшага брата. Ён, напрыклад, быў адным з арганізатараў і актыўных удзельнікаў дэманстрацыі пратэсту вучняў Мялькanавіцкай школы супраць выкладання на польскай мове ўсіх прадметаў.

Раніцай 16 студзеня 1934 года Вася Мялешка прачнуўся раненька і першы прыбег у школу. З сабой ён прынёс са схованкі лістоўкі і пачаў іх раскідваць там, дзе яму загадалі старэйшыя юнакі і дзяўчаты. А адну прымацаваў да дзвярэй дырэктара школы. Дарэчы, пазней гэтая лістоўка аказалася нават у Міністэрстве ўнутраных спраў у Варшаве, куды яе пераслала паліцыя.

У гэты самы дзень вучні Мялькanавіцкай школы не пайшлі на заняткі, а сталі ў адну калону. Да іх далучыліся дзеці з іншых вёсак Слонімскага павета. Усяго сабралася каля 200 чалавек. Школьнікі з вёскі Какошчыцы прынеслі некалькі транспарантаў са словамі: *"Далоў польскую школу!"*, *"Мы патрабуем школы на роднай мове"*. Юныя дэманстранты прайшлі праз усю вёску Мялькanавічы і накіраваліся ў суседнія вёскі. Хутка прыехала паліцыя. Затрымалі самых актыўных хлопчыкаў і дзяўчынак, астатнія пахаваліся па хатах.

Затрыманых дапытвалі ў Касцянёўскім пастарунку і ў Слонімскай дэфензіве. Але Васіля Мялешку паліцэйскія Бяжынскі і Сініцкі спачатку прывялі да дырэктара школы Генрыка Вішнеўскага. Там, трымаючы за каўнер, Сініцкі крычаў: *"Ах ты, малы карапуз!"*. А Бяжынскі стукнуў некалькі разоў яго ботам… Потым, усё ж, усіх адпусцілі…

Аднойчы ў Мялькanавіцкай пачатковай школе адбыўся адкрыты ўрок для настаўнікаў Слонімскага павета. Лепш за ўсіх адказваў ўсё той жа актывіст Васіль Мялешка. Дырэктар Слонімскай сямігадовай школы № 4 Ежы Маеўскі сустрэўся з бацькам Васіля і прапанаваў, каб той адправіў хлопчыка на вучобу ў Слонім. Так Васіль трапіў у горад над Шчарай, дзе ў 1940-м годзе скончыў СШ № 1 і паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Паколькі ў той час не хапала настаўнікаў, то ён вучыўся і працаваў педагогам у былым Гарадзішчанскім раёне…

Але радасці было мала, бо хутка пачалася вайна. Юнак папрасіўся на фронт добраахвотнікам. Ваяваў на Волхаўскім, Ленінградскім, Паўночна-Заходнім і Другім Прыбалтыйскім франтах. Двойчы быў паранены і кантужаны. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступеней і шматлікімі медалямі.

Пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі Васіль Мялешка быў на педагагічнай працы, сумяшчаў яе з вучобай на гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта. А з кастрычніка 1956 года працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук БССР, дзе прайшоў шлях ад малодшага супрацоўніка да загадчыка аддзела.

У 1961 годзе навуковец са Слонімшчыны абараніў кандыдацкую, а ў 1972 годзе — доктарскую дысертацыі. За свае гады жыцця Васіль Іванавіч напісаў звыш 250 навуковых прац і артыкулаў, прысвечаных галоўным чынам сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі ў перыяд феадалізму. Васіль Мялешка з'яўляецца адным з аўтараў буйных калектыўных

*Працяг на ст. 4*

# Гісторык з вёскі Мялькканавічы

*Працяг, пачатак на ст. 2-3*

прац, створаных у той час ў Інстытуце гісторыі Акадэмі навук Беларусі: шматтомнай “Гісторыі Беларускай ССР”, “Гісторыі Мінска”, гістарычных нарысаў “Полацк”, “Магілёў”, складальнікам шэрагу зборнікаў дакументаў па гісторыі Беларусі перыяду феадалізму і капіталізму. Па-новаму ў працах Васіля Мялешкі была раскрыта аграрная гісторыя Усходняй Беларусі ў XVI-XVIII стагоддзях. Перачытайце, калі ласка, сёння яго кнігі *“Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии: вторая половина XVII-XVIII в.”* (Мінск, 1975) і *“Могилёв в середине XVI-XVII в.”* (Мінск, 1988). І вы ўпэўніцеся ў тым, што гэтыя кнігі не састарэлі і вартыя ўвагі.

Мялешка падрабязна вывучыў антыфеадальнае паўстанне ў Крычаўскім старастве ў 40-я гады XVIII стагоддзя. Дзякуючы Васілю Іванавічу і яго архіўным пошукам, былі знойдзены новыя дакументы, якія далі магчымасць даведацца пра лёс кіраўніка гэтага паўстання Васіля Вашчылы. Дарэчы, разам са слонімскім гісторыкам Паўлам Лойкам, сынам пісьменніка Алега Лойкі, ён напісаў і выдаў кнігу для школьнікаў “Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы” (Мінск, 1988). А пасля была іх яшчэ адна сумесная праца — кніга “І ўзняўся люд просты” (Мінск, 1992).

Васіль Іванавіч Мялешка шчыра сябраваў з настаўнікам гісторыі, заснавальнікам Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма Аляксандрам Сямёнавічам Жукоўскім. А калі выйшла кніга “Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы”, ён



Васіль Мялешка на фронце, 1944 г.



„ЗА ПОБЕДУ НАД ГЕРМАНИЕЙ
В ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЕ
1941—1945 гг."

УДОСТОВЕРЕНИЕ
ЗА УЧАСТИЕ В ВЕЛИКОЙ
ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЕ

УКАЗОМ ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО
СОВЕТА СССР от 9 мая 1945 года
НАГРАЖДЕН МЕДАЛЬЮ
„ЗА ПОБЕДУ НАД ГЕРМАНИЕЙ
В ВЕЛИКОЙ ОТЕЧЕСТВЕННОЙ
ВОЙНЕ 1941—1945 гг."
От имени ПРЕЗИДИУМА ВЕРХОВНОГО
СОВЕТА СССР медаль вручена
11 марта 1946 г.
(должность, воинское звание и подпись лица
М. П.
вручающего медаль)

прыслаў у музей цэлую пасылку гэтых кніг з аўтографамі для лепшых вучняў школы. І пажадаў кожнаму школьніку здароўя, шчасця і дабрабыту.

Няўрымслівасць і апантанасць клікалі Васіля Мялешку заўсёды на новыя пошукі дакументаў пра мінулае беларускага народа. Каштоўныя і невядомыя раней матэрыялы, знойдзеныя гісторыкам у архівах Гродна, Брэста, Мінска, Кіева, Вільні, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Кракава ляглі ў залаты фонд беларускай гісторыі. Пры жыцці ён быў намеснікам старшыні навукова-метадычнага савета па прапагандзе гістарычных ведаў пры кіраўніцтве таварыства “Веды” Беларусі (было такое)



*Васіль Мялешка (крайні злева) на адной з канферэнцый у Польшчы, 1960-я гады*

і наменнікам старшыні аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы пры Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР…

У 1990 годзе ў Мінску з друку выйшаў вялікі том “Скарына і яго эпоха”. Гэта была першая сур’ёзная спроба комплекснага вывучэння эпохі Францыска Скарыны. І спроба ўдалася. Сярод аўтараў выдання быў і прафесар Васіль Мялешка.

У апошнія гады свайго жыцця Васіль Іванавіч любіў бываць на роднай Слонімшчыне, наведваў вёску Мяльканавічы. Ён цікавіўся гісторыяй сваёй маленькай радзімы, меў шмат архіўных матэрыялаў, запісаў. Яшчэ ў 1990 годзе мы з ім гутарылі пра выданне кнігі “Памяць. Слонімскі раён”. А 5 сакавіка 1991 года ад яго нечакана атрымаў невялікі ліст. Васіль Іванавіч пісаў: *“Паважаны Сяргей Мікалаевіч. Адносна кнігі памяці. Па гэтаму пытанню я размаўляў з Шамякіным, Хаўратовічам і Кісялёвым. Дамовіліся ў канцы сакавіка сабрацца ў Мінску асноўным аўтарам і даць кожнаму канкрэтнае заданне, вызначыць час яго выканання. Я ў сакавіку пайду на пенсію і разам з Паўлам Лойкам возьмемся за Слонім. Напішам усё, што датычыць XVI – першай паловы XIX стагоддзяў. Ёсць шэраг дакументаў і па пазнейшаму часу. Лічу, што трэба абавязкова выканаць усю працу ў гэтым годзе…”.*

На жаль, кніга “Памяць. Слонімскі раён” выйшла з друку без Васіля Іванавіча Мялешкі. Яго не стала ў 2004 годзе, тады, калі пабачыла свет слонімская “Памяць”. Паспеў мне на памяць Васіль Іванавіч выслаць яшчэ шэраг матэрыялаў пра свой жыццёвы і творчы лёс.

Гісторыкі Павел Лойка і Валянцін Голубеў пра пакаленне Васіля Іванавіча Мялешкі аднойчы сказалі так: *“Цяжкім быў шлях у навуку для прадстаўнікоў даваеннага пакалення. Колькі трэба было прайсці выпрабаванняў, у барацьбе адстаяць незалежнасць Бацькаўшчыны, перш чым заняцца даследаваннем яе гісторыі”* (з публікацыі ў газеце *“За передовую науку”*, 6 лістапада 1986 года). Доктар гістарычных навук, прафесар Васіль Іванавіч Мялешка прайшоў усе выпрабаванні і пакінуў пасля сябе сур’ёзныя даследаванні па гісторыі нашай Беларусі. Нізкі паклон яму за гэта.

На вялікі жаль, імя такога вялікага гісторыка да сённяшніх дзён у Беларусі не ўшанавана. Няма яму помніка, мемарыяльнай шыльды, не названы яго імем вуліцы ні на роднай Слонімшчыне, ні ў Мінску, дзе ён жыў, ні ў Магілёве, гісторыю якога грунтоўна даследаваў.

●Сяргей Чыгрын

*Фотаздымкі з архіву аўтара*


ДИПЛОМ
ДОКТОРА НАУК

МИТ № 001603

Москва 1 ноября 1973 г.

Решением
Высшей Аттестационной Комиссии
от 7 сентября 1973 г. (протокол № 52)
Мелешко Василию Ивановичу
ПРИСУЖДЕНА УЧЕНАЯ СТЕПЕНЬ ДОКТОРА
ИСТОРИЧЕСКИХ НАУК

Председатель Высшей Аттестационной Комиссии
Ученый Секретарь Высшей Аттестационной Комиссии

# Стагоддзе Васіля Мялешкі

З Васілём Іванавічам Мялешкам я сустракаўся хіба толькі два разы: у 1990-я ў Слоніме, і ў 2000-м у Мінску. Прыгадваю, як у яго кватэры мы абмяркоўвалі рашэнне слонімскіх уладаў святкаваць у 2002 годзе 750-я ўгодкі нашага горада — ад першай згадкі ў Іпацьеўскім летапісе. У нататніку запісаў словы Мялешкі: *"Дата — 1252 год — не адлюстроўвае рэальнай рэчаіснасці".* Ён тады яшчэ арганізаваў мне тэлефонную размову з археолагам Яраславам Звяругам, які праводзіў раскопкі ў Слоніме. *"Вядома, хацелася б, каб горад быў больш старажытны,* — казаў Звяруга. — *Таму што ўсе археалагічныя даследаванні сцвердзілі яго існаванне ўжо ў XI стагоддзі".*

Памятаю, як Васіль Іванавіч паказваў мне стосы копій архіўных дакументаў, выпісак з іх, якія ляжалі ў кватэры проста на падлозе. З сумам казаў, што не ўсё паспеў апрацаваць. У той час ён спадзяваўся выдаць яшчэ адну кнігу, і з тэкстам працаваў Павел Лойка…

Крыўдна, што Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі сёлета забылася пра юбілей Васіля Мялешкі. Звычайна, у сваіх сацсетках (у Facebook і Twitter) яе супрацоўнікі такія даты прыгадваюць, змяшчаюць падборку фотаздымкаў (так яны неяк прыгадалі слонімскага паэта і краязнаўцу Гальяша Ляўковіча). Ні 15 сакавіка, ні пазней пра нашага земляка так і не згадалі.

●Сяргей Ёрш

# Слонімцы ў XVI стагоддзі вучыліся ў Кракаве



У часы Францыска Скарыны слонімцы з заможных сем'яў вучыліся ў Кракаве, старажытнай сталіцы Польшчы. Даследчык Вацлаў Урбан адшукаў згадкі пра нашых землякоў у *"кракаўскіх касцельных крыніцах".** Высвятляецца, што маладыя ліцьвіны прыязджалі туды з Вільні, Гродна, Брэста, Лідчыны, Шчучыншчыны і Слонімшчыны. Частка з іх навучалася ў Кракаўскім універсітэце, частка — у іншых навучальных установах. Прозвішчы нашых землякоў захаваліся, дзякуючы розным здарэнням, правапарушэнням ці нават крымінальным гісторыям.

У 1523 годзе студэнт Кракаўскага ўніверсітэта *"Альберт з Літвы"* пазычыў жупан** *"Пятру са Слоніма".* І гэта было зафіксавана ў нейкім дакуменце.

У 1540 годзе згадваецца студэнт гуманітарных навук *"Валянцін Сламінскі з Літвы".* Урбан не выключае, што гэта слонімец. У той час у дакументах можна было сустрэць скажоныя варыянты назвы нашага горада — "Сламін", "Сломін" ці "Сланін". Згаданы студэнт жыў пры Усясвяцкай парафіяльнай школе. Яго часова затрымалі за… параненне кракаўскіх гарадскіх вартаўнікоў.

Ужо з сярэдзіны XVI стагоддзя моладзь з Вялікага княства Літоўскага амаль перастала прыязджаць на вучобу ў Кракаў. З аднаго боку з-за распаўсюду пратэстанцызму ўсё больш хлопцаў ехалі ў адпаведныя ўніверсітэты (напрыклад, у Крулявец, цяперашні Калінінград), з іншага боку — з'явілася магчымасць вучыцца на Бацькаўшчыне — у 1579-м была заснаваная Віленская акадэмія.

●Арцём Салейка

**Урбан В. Беларусы ў рэнесансным Кракаве // Ніва (Беласток), 1999, № 11, 14 сакавіка. С. 4.*

***Верхняе шляхецкае ці мяшчанскае адзенне.*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Зборнік матэрыялаў канферэнцыі

У Гродне выйшаў зборнік матэрыялаў міжнароднай навуковай канферэнцыі “Святло зямлі беларускай”, якая адбылася ва універсітэце імя Янкі Купалы ў кастрычніку 2020 года і была прысвечана жыровіцкім юбілеям. Сотня старонак кнігі — пра Жыровічы, ёсць матэрыялы і пра гісторыю хрысціянства ў Беларусі. Зборнік даступны для спампоўвання на сайце згаданай ВНУ: https://elib.grsu.by/




# Жыровіцкая перыёдыка

Сёлета ў гродзенскай друкарні выйшаў спецвыпуск “Жыровіцкай абіцелі”, прысвечаны памяці мітрапаліта Філарэта. Яго наклад — 5 тысяч асобнікаў, аб’ём — 48 старонак (з дадаткам — 64). Спецвыпуск багата ілюстраваны. Апублікаваны фрагмент тэстаменту памерлага экс-кіраўніка БПЦ з просьбай пахаваць яго ў слонімскай зямлі. “Жыровіцкая абіцель” даступная для спампоўвання на манастырскім сайце.


Местом моего погребения определить Свято-Успенский Жировичский ставропигиальный монастырь на древнем братском кладбище за алтарём Крестовоздвиженского храма.

ФИЛАРЕТ, Митрополит Минский и Слуцкий, Патриарший Экзарх всея Беларуси

(Из Завещания Высокопреосвященнейшего митрополита Филарета)

Першы сёлета нумар часопіса духоўнай семінарыі *“Ступени”* таксама прысвечаны мітрапаліту Філарэту.






# Загінуў у далёкай Анголе

25 лістапада 1985 года ў Анголе загінуў капітан Сяргей Васільевіч Лук'янаў, камандзір экіпажа Ан-12. Пра гэтага слонімца не згадвае кніга "Памяць" (хаця там ёсць прозвішчы двух нашых землякоў-афіцэраў савецкай арміі, якія пабывалі ў Анголе).

Сяргей Лук'янаў нарадзіўся ў Слоніме 15 красавіка 1956 года. У 1977-м скончыў Балашоўскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў (Саратаўская вобласць Расіі). На сайце навучальнай установы знайшлося фота слонімца і кароткая біяграфічная даведка. Лук'янаў быў лётчыкам першага класа, лятаў на самалётах Л-29, Ан-24, Ан-12, меў агульны налёт каля 4 тысяч гадзін (амаль паўгода ў небе). З 1977-га служыў у частках ваенна-транспартнай авіяцыі Ваенна-паветраных сіл савецкай арміі. Пачынаў у Запарожжы, а пасля быў пераведзены ў Крым. Адзначаецца, што Сяргей Лук'янаў — *"удзельнік баявых дзеянняў на тэрыторых іншых краін (Эфіопія, Емен, Ангола)… Загінуў пры выкананні інтэрнацыянальнага доўгу"*.

Слонімец служыў у 369-м ваенна-транспартным авіяцыйным палку ў Джанкоі. Восенню 1985-га ён быў у камандзіроўцы ў Анголе. З Джанкоя "адкамандзіравалі" і самалёт Ан-12. У Анголе ўжо дзесяцігоддзе ішла грамадзянская вайна. Адзін з бакоў канфлікту падтрымлівалі СССР і Куба. У іншых сіл таксама была знешняя падтрымка.

25 лістапада 1985 года Ан-12 Лук'янава перавозіў савецкіх ваенных дарадцаў і ангольскіх вайскоўцаў. Калі самалёт пралятаў над тэрыторыяй, якую кантраляваў праціўнік, у 43 кіламетрах на ўсход ад горада Менонге ён быў заўважаны дыверсійнай групай спецназу з Паўднёваафрыканскай рэспублікі. Дыверсанты збілі самалёт ракетай, якая трапіла ў рухавік. Сяргей Лук'янаў нават у такой сітуацыі не разгубіўся і спадзяваўся пасадзіць самалёт, але разбурылася крыло, і Ан-12 упаў у лес.



*Сяргей Лук'янаў*

Загінуў 21 чалавек, з якіх толькі 9 былі ангольскімі вайскоўцамі. Загінулыя ваенныя дарадцы мелі званні палкоўніка і падпалкоўніка. Сярод іх быў і беларус з Віцебшчыны Міхаіл Жарнасек.

Каб знайсці месца падзення і забраць целы загінулых, была арганізавана спецаперацыя. Падчас яе праціўнік збіў верталёт Мі-17, загінулі яшчэ 5 чалавек, у тым ліку трое савецкіх грамадзян.

Сяргей Лук'янаў пахаваны ў горадзе Джанкой. У брацкай магіле там ляжаць 6 чалавек з 8-мі чальцоў экіпажу. Усе яны былі пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам "Чырвоная Зорка".

●Генадзь Гурскі

*Помнік*
*на брацкай магіле*
*экіпажа Сяргея Лук'янава*
*ў Джанкоі ў Крыме*



СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Слонімскія шахматысты



Гэты здымак слонімскіх шахматыстаў быў зроблены ў міжваенны час (у 1920-1930-я гады). На жаль, дагэтуль не ведаем іх прозвішчаў. Ёсць згадка, што шахматысты збіраліся ў кандытарскай “Kafe Elite” дзесьці ў цэнтры горада. Вясной 1932 года ў газеце “Навагрудскі кур’ер” была апублікавана зацемка* з прапановай стварыць у Слоніме клуб шахматыстаў і праводзіць турніры (відаць, на той час іх не было). Ці арганізаваліся слонімцы, яшчэ трэба высветліць.

●Сяргей Ёрш

**— O klub szachistów w Słonimie.** W cukierni „Kafe Elite“ w Słonimie, często widzimy licznych graczy w szachy. Ilość ich jest dość liczna. Czy nie należałoby zorganizować klub szachistów i urządzać od czasu do czasu turnieje. Przyczyniłoby się to do popularyzacji gry no i zjednoczyłoby miłośników szachów w zwarte, zorganizowane kółko.

**Kurjer Nowogródzki, 1932, № 63, 17 сакавіка.*

# Першы хакейны матч 1937 года

У “СК” нядаўна змяшчаўся нарыс пра хакей у Слоніме ў міжваенны час.* У дапаўненне да яго падаем выяўленую згадку пра першы хакейны матч 1937 года. Ён праходзіў у сярэдзіне лютага на хакейнай пляцоўцы, зробленай паміж дамбай і будынкам старства. Гулялі каманды “Słonim” і “Żyrowice”.** На жаль, тагачасны журналіст “забыўся” паведаміць лік матчу.

●СЁ

**Ёрш С. Дзе гулялі ў хакей у 1930-я гады // Слонімскі край, 2021, № 2. Люты. С. 12-13.*

***Kurjer Nowogródzki, 1937, № 47, 17 лютага.*



СЛОНІМСКІЯ КРАЯЗНАЎЦЫ

# Настаўнік, які выдаў кнігу пра тэатр

У студзені 1930 года ў польскамоўнай газеце "Навагрудскае жыццё" была апублікавана невялікая зацемка пра тое, што ў Слоніме з'явілася кніжка нейкага Тадэвуша Міка (Tadeusza Mika) "Тэатр адукацыйны" ("Teatr oświatowy").[1] Яе прадстаўлялі, як *"вельмі даступны падручнік з галіны тэатралогіі"*. Кніжка каштавала нямала — 2,5 злотага. Пры гэтым пра тое, дзе яе можна было купіць, не паведамлялася.

Можна было падумаць, што "Тэатр адукацыйны" выйшаў у Слоніме ў адной з мясцовых друкарняў. Аднак гэта не так. У кнізе Марыі Ласка ад 1936-га знайшлася згадка пра выданне: [Halski M.] Mik T. Teatr oświatowy. Przedm. J. Dracz. — Wilno, 1929. Nkl. Okręg. Z P N S P.[2]

Атрымліваецца, што Тадэвуш Мік — гэта псеўданім М. Гальскага, а кніга выйшла ў Вільні.

Мечыслаў Гальскі быў вядомым дзеячом у Слоніме ў міжваенны час: педагогам, журналістам, краязнаўцам, літаратарам. А яшчэ яго вельмі вабіў тэатр.

Наўрад ці Гальскі быў ураджэнцам Слонімшчыны. Найхутчэй ён быў прысланы ў пачатку 1920-х з Польшчы для працы ў настаўніцтве ды праводзіў паланізацыю беларускага насельніцтва. Да гэтай яго дзейнасці мы ставімся адмоўна, аднак замоўчваць яе не варта.

Паколькі Мечыслаў Гальскі ўваходзіў у Саюз афіцэраў рэзерва[3], значыць да педагагічнай дзейнасці ён служыў у польскім войску. Відаць, удзельнічаў у вайне 1919-1920 гадоў з бальшавікамі.


**Z wydawnictw**

Ukazała się w Słonimie książka Tadeusza Mika p. t. „Teatr oświatowy" z przedmową Jana Dracza. Cena książki wynosi zł. 2 gr. 50. Jest to bardzo przystępnie z ujęty podręcznik z działu teatrologji.

У 1926 годзе Мечыслаў Гальскі з жонкай Янінай былі настаўнікамі ў школе ў мястэчку Дварэц (цяпер — Дзятлаўскі раён). Гальскі быў яшчэ і дырэктарам школы. Тагачасныя аўтографы вучняў і настаўнікаў гэтай навучальнай установы захаваліся ў бібліятэцы Кангрэсу ЗША.[4]

Аднак летам таго ж года Гальскі быў ужо ў Дзераўной на Слонімшчыне. Ён стаў адным з ініцыятараў стварэння ў гэтай вёсцы 15 ліпеня 1926 года Таварыства добраахвотнай пажарнай варты. Праўда, лічыў структуру *"новай польскай пляцоўкай на тэрыторыі Слонімскага павета"*. Праз таварыства ішла польская прапаганда сярод мясцовага беларускага насельніцтва.[5]

На чэрвень 1927-га Мечыслаў Гальскі быў дырэктарам школы ў Дзераўной. Калі прыехалі прадстаўнік ваяводства і слонімскі староста, Гальскі скарыстаўся момантам і запрасіў іх у *"знішчаны школьны будынак"*. Госці пагадзіліся, што трэба распачынаць рамонт.[6]

У той час педагог пісаў карэспандэнцыі ў газету "Навагрудскае жыццё", падпісваў іх "М." і "Слонімец". З іх мы і ведаем пра яго дзейнасць.

Найхутчэй летам 1928 года Гальскія пераехалі ў Слонім. Яніна Марыя Гальская працавала ў старастве.[7] Мечыслаў Гальскі стаў інструктарам пазашкольнай адукацыі.

У жніўні 1928-га ў Народным доме ў Слоніме праходзіў *"вечар танечна-кабарэтавы"* з выступамі аматараў. Найбольш адзначаўся выступ Гальскіх.[8] Праўда, не ўдакладняецца, з чым яны выступалі.

Мечыслаў Гальскі стаў актывістам Саюзу стральцоў. У снежні 1928 года ён правёў арганізацыйны сход у Плаўскіх, на якім быў створаны мясцовы аддзел.[9]

У 1929-м Гальскі актыўна займаўся падтрымкай мастацкай самадзейнасці,

*Працяг на ст. 12*



*Польскія настаўнікі ў Слоніме. Мечыслаў Гальскі, верагодна, другі справа*

# Настаўнік, які выдаў кнігу пра тэатр

*Працяг, пачатак на ст. 11*




так папулярнай асабліва ў вёсках. У сакавіку ён прывёз у Жыровічы групу вайскоўцаў 79-га пяхотнага палка, якія выступалі ў тэатральнай зале дзяржаўнай сельскагаспадарчай і лясной школы.[10] У пачатку красавіка М. Гальскі арганізаваў сход у Сялявічах з мэтай стварэння драматычных курсаў.[11] Драматычныя курсы арганізоўваліся і ў іншых вёсках. “Навагрудскае жыццё” пісала, што ў тэатральнай самадзейнасці Слонімскі павет абагнаў іншыя паветы ваяводства. З ініцыятывы Гальскага нават быў створаны “пракат” тэатральных касцюмаў.[12]

Пры Таварыстве Народнага дома ў Слоніме дзейнічала артыстычная секцыя. Падрабязна пра яе напішам іншым разам. На жаль, пра слонімскіх акцёраў міжваеннага часу (1920-1930-х гадоў) не знайсці звестак у кнігах пра гісторыю тэатра ў нашым горадзе. Пакуль гэта “белая пляма”, якую паспрабуем ліквідаваць.

Мечыслаў Гальскі ўваходзіў у кіраўніцтва Таварыства Народнага дома[13], ён цесна супрацоўнічаў з артыстычнай секцыяй. Вясной 1929-га яе кіраўнік Любіч-Кваткоўскі заснаваў “вандроўны тэатр”, акцёры паехалі па павеце. Тая ініцыятыва ледзь не скончылася трагічна — у красавіку аўтамабіль з трупай перакуліўся ў 20 кіламетрах ад Слоніма, многія атрымалі траўмы.[14]

Дарэчы, не ўся прапаганда тады была на польскай мове. Інструктар пазашкольнай адукацыі Слонімскага сейміка Фелікс Цяўлоўскі чытаў у вёсках даклады па-беларуску (у Міжэвічах, Чамярах і г. д.).[15] Мечыслаў Гальскі, напэўна, беларускай мовай не валодаў.

У 1929-м у Вільні выходзіць згаданая ў пачатку артыкула кніга Гальскага. На жаль, яе адшукаць пакуль не ўдалося. Можна меркаваць, што “Тэатр адукацыйны” быў абагульненнем усяго досведу інструктара пазашкольнай адукацыі. Прадмову ў кнізе напісаў Ян Драч, які ў 1929-м быў сябрам ураду Віленскай акругі Саюза польскага настаўніцтва агульнаадукацыйных школ.[16] А ў жніўні 1930 года ён узначаліў Таварыства польскага народнага тэатру ў Вільні.[17] Яно мела “багатую бібліятэку тэатральную”[18] і апекавалася трупамі народных тэатраў і тэатральнымі секцыямі пры грамадска-асветных арганізацыях, народнымі хорамі.[19] Зусім магчыма, што якраз Драч і падштурхнуў Гальскага да напісання кнігі, дапамог яе выдаць. У 1931-м ён прыязджаў у Слонім, разам з М. Гальскім праводзіў курсы для навучэнцаў настаўніцкіх семінарый.[20]

У верасні 1930 года Мечыслаў Гальскі паехаў на вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Вільню. З пасады інструктара пазашкольнай адукацыі ён сышоў. Слонімскі журналіст і краязнаўца Віктар Клімкевіч пісаў тады пра Гальскага, як пра вельмі ініцыятыўнага і энергічнага чалавека, як пра асобу, *“якая ў значнай меры спрычынілася да падняцця ўзроўню пазашкольнай адукацыі ў Слонімскім павеце”*.[21]

У 1932-м Гальскі стаў намеснікам старшыні павятовага аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Слоніме (быў ім і ў 1934-м), працаваў у метадычна-педагагічным аддзеле. З верасня таго года ён кіраваў школай для дарослых, арганізаванай СПН.[22] А летам 1933 года яго прызначылі дырэктарам новастворанай 4-й школы ў Слоніме.[23] Вучня



**Kursa dramatyczne na wsi**

Instruktor Oswiaty Pozaszkolnej w Słonimie p. Halski w dniu 6 b. m. we wsi Sielawicze urządził zebranie, na którem wygłosił dłuższe przemówienie na temat organizacji kursów dramatycznych. Obecni zgórą 40 słuchaczów z wielkim oddaniem się i zaciekawieniem wysłuchali prelegenta, zasypując go szeregiem pytań z dziedziny organizowania Kółka amatorskiego i prosząc o częstsze wizytacje tej miejscowości i udzielanie praktycznych wskazówek fachowych oraz ciągłego czuwania nad zapoczątkowaną pracą.

Mieczysław Halski.

# SŁONIMSZCZYZNA

(Monograficzny szkic Słonimszczyzny).

іншай школы Барыса Данілюка здзіўляла папулярнасць М. Гальскага сярод школьнікаў.[24]

У тым жа 1933 годзе ваяводская газета называла яго *“адным з вядомых на Слонімшчыне грамадскіх дзеячоў”*.[25]

4 лютага 1933 года ў Слоніме пад рэдакцыяй Мечыслава Гальскага выйшла аднадзёнка “Наш палёт” (“Nasz lot”). Па аб’ёме газета нагадвае часопіс. Аднадзёнка была прысвечана 10-годдзю Слонімскага павятовага аддзела Саюза польскага настаўніцтва, якое адзначалася ў 1932-м. У ім ёсць вялікі артыкул Гальскага, прысвечаны гісторыі Слонімшчыны.[26] Гэтая публікацыя і дазваляе назваць яго краязнаўцам.

Гальскі быў і літаратарам. У аднадзёнцы “Nasz lot” у 1933-м ён апублікаваў фельетон, падпісаны псеўданімам “Halmik”. Ён нагадвае псеўданім, якім падпісана кніжка. Фельетон напісаны па матывах адной з паездак М. Гальскага ў Варшаву.

У наступныя гады згадкі пра Мечыслава Гальскага ў мясцовай прэсе зніклі, ці нам пакуль іх не ўдалося выявіць. Магчыма, Гальскія выехалі з горада. У спісах рэпрэсаваных савецкімі ўладамі іх няма. “Былая настаўніца польскай школы” Яніна Гальская ў жніўні 1941-га знаходзілася ў акупаваным немцамі Гродне.[27]

●Сяргей Ёрш




*[1] Życie Nowogródzkie, 1930, № 19, 23 студзеня.*

*[2] Łaska M. Bibliografia Ruchu Teatrów Ludowych w Polsce: 1901-1935. — Warszawa, 1936. С. 7.*

*[3] Życie Nowogródzkie, 1930, № 10, 12 студзеня; Życie Nowogródzkie, 1930, № 70, 23 сакавіка.*

*[4] http://www.polska1926.pl/podpisy/344467*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1927, № 6. 18 чэрвеня. С. 10.*

*[6] Życie Nowogródzkie, 1927, № 8, 2 ліпеня. С. 10.*

*[7] Dziennik Wojewódzki, 1928, № 8, 2 ліпеня. С. 79.*

*[8] Życie Nowogródzkie, 1928, № 193, 19 жніўня.*

*[9] Życie Nowogródzkie, 1928, № 304, 10 снежня.*

*[10] Życie Nowogródzkie, 1929, № 88, 30 сакавіка.*

*[11] Życie Nowogródzkie, 1929, № 99, 12 красавіка.*

*[12] Życie Nowogródzkie, 1929, № 36, 6 лютага.*

*[13] Życie Nowogródzkie, 1929, № 330, 29 лістапада.*

*[14] Życie Nowogródzkie, 1929, № 105, 18 красавіка.*

*[15] Życie Nowogródzkie, 1929, № 40, 10 лютага; 1929, № 42, 12 лютага.*

*[16] Sprawy Nauczycielskie (Вільня), 1930, № 4. Чэрвень. С. 4.*

*[17] Sprawy Nauczycielskie, 1930, № 5. Верасень. С. 54.*

*[18] Sprawy Nauczycielskie, 1930, № 6. Кастрычнік. С. 45-46.*

*[19] Sprawy Nauczycielskie, 1930, № 7. Лістапад. С. 24.*

*[20] Nasz lot: jednodniówka z okazji 10-cioletniego jubileuszu istnienia Oddziału Powiatowego Związku Nauczycielstwa Polskiego w Słonimie 1922-1932. — Słonim, 1933, 4 лютага. С. 29.*

*[21] Życie Nowogródzkie, 1930, № 191, 20 жніўня.*

*[22] Nasz lot: jednodniowka, 1933, 4 лютага. С. 18, 20.*

*[23] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 235, 29 жніўня.*

*[24] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 105.*

*[25] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 1, 1 студзеня.*

*[26] Halski M. Słonimszczyzna (Monograficzny szkic Słonimszczyzny) // Nasz lot: jednodniowka, 1933, 4 лютага. С. 9-16.*

*[27] Ярмусик Э. Католический Костёл в Белоруссии в годы второй мировой войны (1939—1945). — Гродна, 2002. С. 102-103.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Барыс Галубоўскі

У 1908 годзе ў Слоніме нарадзіўся Барыс Сяргеевіч Галубоўскі. Відаць, падчас Першай сусветнай вайны ён пакінуў з бацькамі радзіму, і назад ужо не вярнуўся. У 1920-я Галубоўскі жыў у савецкай Украіне.

У 2010 годзе ў Маскве выйшла кніга пра невядомую маладзёжную антысавецкую арганізацыю "Дэмакратычны саюз" ("Саюз дэмакратычнай моладзі"), якая дзейнічала ў 1928-1929 гадах і мела цэнтр у Чарнігаве.* У ёй апублікаваныяратаколы допытаў з Цэнтральнага архіву ФСБ РФ. Сярод удзельнікаў арганізацыі быў і слонімец.

"Дэмакратычны саюз" выдаваў на гектографе лістоўкі, якія распаўсюджваліся ва Украіне і Расіі. У брашуры арганізацыі напісаныя такія радкі: *"Дыктатура пралетарыята ў нашай краіне — гэта дыктатура меншасці… Улада ў поўным сэнсе адарвана ад масаў… З часу разгону Устаноўчага сходу і да апошняга часу ў крыві і здрадзе за спінай сваіх ахоўнікаў і жандараў здзяйсняюць бальшавікі гэты дэспатызм"*.

У ліпені 1929 года 12 чалавек былі асуджаны на расстрэл, яшчэ паўсотні атрымалі розныя тэрміны зняволення.




Расстрэл атрымаў і Барыс Галубоўскі. Але яму і шэрагу іншых удзельнікаў арганізацыі яго замянілі *"зняволеннем у канцлагер, тэрмінам на дзесяць гадоў"*.** Магчыма, з-за таго, што трымаліся на допытах мужна і адмаўлялі праўдзівасць паказанняў, выбітых з іншых.

Дарэчы, на адным з допытаў Галубоўскі згадаў, што раней яго арыштоўвалі ў Кіеве па справе *"асацыяцыі дэкадэнтаў хуліганаў"*.*** Відаць, гэта была суполка маладой творчай інтэлігенцыі.

●Генадзь Гурскі

**Демократический союз. Следственное дело. 1928-1929 гг.: Сб. док. — М.: РОССПЭН, 2010.*

***Тамсама. С. 442.*

****Тамсама. С. 216.*

# Алена Курыла



Былы міністр інфармацыі, а цяпер галоўны рэдактар газеты “Звязда” і аднайменнага выдавецкага дома Алесь Карлюкевіч апублікаваў артыкул пра нашу зямлячку, украінскую і рускую мовазнаўцу Алену Барысаўну Курыла (Курылаву).* Пра яе ён згадваў і раней.** Карлюкевіч даведаўся пра ўраджэнку Слоніма з украінскіх выданняў і нічога не знайшоў пра яе ў беларускіх энцыклапедыях. Пасля гэтага і пачаў збіраць звесткі, рабіць публікацыі.

Алена Курыла нарадзілася ў Слоніме 6 кастрычніка 1890 года ў яўрэйскай сям’і. Вучылася ў Львове і Варшаве. Яе называюць вучаніцай вядомага ўкраінскага мовазнаўцы Яўгена Цімчанкі. У 1920-1930-я гады жыла ў савецкай Украіне, працавала ў навуковых установах, займалася праблематыкай украінскай мовы, складала тэрміналагічныя слоўнікі. З 1930-га Курыла была намеснікам дырэктара Інстытута мовазнаўства Украінскай Акадэміі навук. Творчы набытак яе значны: слоўнікі, падручнікі, дзясяткі навуковых артыкулаў. Некаторыя яе працы перавыдаваліся пасля на эміграцыі і ва ўжо незалежнай Украіне.

У 1933 годзе нашу зямлячку арыштавалі, неўзабаве вызвалілі. Адчуваючы небяспеку, Алена Курыла выехала ў Расію, працавала выкладчыкам Маскоўскага абласнога педагагічнага інстытута. У 1938-м адбыўся новы арышт. На гэты раз сланімчанку асудзілі на 8 гадоў зняволення і выслалі ў Казахстан. У 1946-м Курыла выйшла на волю і, відаць, зноў паехала ў новае месца, баючыся чарговага арышту. Бо дагэтуль яе лёс невядомы. У 1989 годзе Алену Курыла рэабілітавалі.

*“Яе імя варта таго, каб гэтая асоба згадвалася на літаратурнай карце Слонімшчыны поруч з імёнамі іншых пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў… Мо з часам імя нашай зямлячкі паўнавартасна будзе ўпісана і ў гісторыю Гродзеншчыны, Беларусі?!”,* — піша Алесь Карлюкевіч.

Падрыхтаваў ●Генадзь Гурскі

**Карлюкевіч А. Забытае імя: Алена Курыла — украінская мовазнаўца са Слоніма // 2021, 10 студзеня; http://sozvuchie.by/mustaj-karym-4/zabytae-imya-alena-kuryla-ukrainskaya-movaznatsa-sa-slonima.html*

***Карлюкевіч А. Знічкі Айчыны: Слонім // 2011, 24 сакавіка; https://www.sb.by/articles/znichki-aychyny-slon-m-2.html*

# Майсей Хігрын

24 верасня 1913 года ў Слоніме ў сям’і бухгалтара (пазней быў гандляром мануфактурай*) нарадзіўся Майсей (Мойзеш) Навумавіч Хігрын. Згадкі пра яго знайшліся ў публікацыях у Расіі.**

У 1931 годзе Хігрын скончыў у Слоніме гімназію і паехаў у польскую сталіцу. У 1935-м ён скончыў факультэт права Варшаўскага ўніверсітэта. Магістр права Майсей Хігрын у 1936-1939 гадах праходзіў практыку ў Слоніме, Вільні, Гродне і Сувалках, працаваў сакратаром у адвакацкіх канцылярыях.

Восенню 1939-га ўжо пры савецкай уладзе слонімец пераехаў у Беласток, працаваў старшым эканамістам, пасля — начальнікам аддзела планавання абласнога аддзела камунальнай гаспадаркі. Летам 1941-га Хігрын эвакуяваўся на ўсход, апынуўся ў Башкірыі. Там працаваў і ў калгасе, і ў прамыслова-лясным упраўленні. А ў 1942-м яго мабілізавалі на Уралмаш у Свярдлоўск: быў рабочым, эканамістам, майстрам-электрыкам.

У пачатку 1944-га Майсея Хігрына, як у мінулым польскага грамадзяніна, савецкія ўлады далучылі да грамадска-палітычнай дзейнасці. Спачатку ён быў старшынём абласной камісіі грамадскай дапамогі, а ў пачатку восені стаў кіраўніком абласнога праўлення прасавецкага Саюза польскіх патрыётаў. Як піша Аляксей Чэвардзін, *“відаць… савецкая ўлада давярала ім* [яўрэям] *больш, чым этнічным палякам”.*

Слонімец разбудоўваў сетку СПП, ладзіў разнастайныя мерапрыемствы, арганізоўваў курсы для польскай моладзі, апекаваўся польскім дзіцячым домам, раздаваў гуманітарную дапамогу. У 1945-м была праца ў Чалябінску. У пасляваенны час Майсей Хігрын жыў у Польшчы, працаваў пракурорам.

Падрыхтаваў ●Генадзь Гурскі

**Kurjer Nowogródzki, 1936, № 299, 31 кастрычніка.*

***Чевардин А. Евреи в польских общественных организациях на Среднем Урале в 1941-1946 гг. // Тирош — труды по иудаике. Вып. 11. — Москва, 2011. С. 174-175; Чевардин А. Лидеры польской общины на Среднем Урале в годы Второй мировой войны: проблемы социокультурной адаптации // Человек в мире культуры: проблемы науки и образования... — Екатеринбург, 2019. С. 189.*

# Невядомая паштоўка



У сакавіку на ebay.de з'явілася невядомая дагэтуль паштоўка (яе няма ў кнізе Уладзіміра Ліхадзедава*), выдадзеная ў Берліне падчас Першай сусветнай вайны. На ёй — малюнак Гандлёвай плошчы (Тэатральнай) у Слоніме, выкананы, праўдападобна, нямецкім мастаком. На пярэднім плане — праваслаўная капліца, усталяваная рускімі ўладамі ў канцы XIX стагоддзя ў памяць іх вайскоўцаў, загінулых у баях з паўстанцамі Каліноўскага (у пачатку 1920-х яе знеслі польскія ўлады).

Здымкі і малюнкі капліцы з гэтага боку плошчы рабіліся рэдка, тым больш каштоўная для нас паштоўка. За капліцай бачым цяперашнюю Першамайскую вуліцу і сабор. Будынак злева быў знішчаны падчас Другой сусветнай вайны. Захаваўся першы справа ад яе дом. Мастак не стаў пераносіць на малюнак усе дэталі, якія прысутнічалі на плошчы. Не стаў ён маляваць і людзей.

Год выдання паштоўкі невядомы. Адпраўлена яна была нямецкім вайскоўцам у лістападзе 1918 года.

●Сяргей Ёрш

*Ліхадзедаў У. Слонім. Падарожжа ў часе. — Мінск, 2019.*






ХРОНІКА

# Могілкі закрылі для пахаванняў

Слонімскі раённы савет дэпутатаў 19 лютага прыняў рашэнне аб закрыцці могілак па вуліцы Чырвоных партызан і па вуліцы Баранавіцкая для пахаванняў (з прадугледжанымі заканадаўствам выключэннямі). 6 сакавіка дакумент быў апублікаваны на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале (pravo.by).

# Чаму ж не Вясёлкавая?

Слонімскі райсавет 19 лютага зацвердзіў прапанаваныя раней тапанімічнай камісіяй назвы трох новых вуліц і завулка на ўсходняй ускраіне горада. Гэта — Любімая, Радужная і Цяністая вуліцы, а таксама завулак Любімы. 2 сакавіка дакумент апублікавалі на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Асабліва здзіўляе "Радужная". Чаму ж не Вясёлкавая?

*Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 06.03.2021, 9/107145*

РЕШЕНИЕ СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ
19 февраля 2021 г. № 193

**О закрытии мест погребения**

На основании абзаца второго части первой статьи 13 и части второй статьи 25 Закона Республики Беларусь от 12 ноября 2001 г. № 55-З «О погребении и похоронном деле» Слонимский районный Совет депутатов РЕШИЛ:

1. Закрыть для проведения захоронений места погребения – кладбища, расположенные в городе Слониме по улице Красных Партизан и улице Барановичской, за исключением захоронений, определенных частью пятой статьи 25 Закона Республики Беларусь «О погребении и похоронном деле».

2. Обнародовать (опубликовать) настоящее решение в газете «Слонімскі веснік».

3. Настоящее решение вступает в силу после его официального опубликования.

**Председатель** **О.М.Таргонский**

*Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 02.03.2021, 9/106994*

РЕШЕНИЕ СЛОНИМСКОГО РАЙОННОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ
19 февраля 2021 г. № 190

**О присвоении наименований новым элементам улично-дорожной сети города Слонима**

На основании абзаца третьего статьи 12 Закона Республики Беларусь от 16 ноября 2010 г. № 190-З «О наименованиях географических объектов» Слонимский районный Совет депутатов РЕШИЛ:

1. Присвоить наименования новым элементам улично-дорожной сети города Слонима в усадебной жилой застройке, расположенной в восточной части города:

проектируемой улице № 1 – на белорусском языке «Любі́мая», на русском языке «Люби́мая», определив вид элемента – улица;

проектируемой улице № 2 – на белорусском языке «Ра́дужная», на русском языке «Ра́дужная», определив вид элемента – улица;

проектируемой улице № 3 – на белорусском языке «Цяні́стая», на русском языке «Тени́стая», определив вид элемента – улица;

проектируемой улице № 4 – на белорусском языке «Любі́мы», на русском языке «Люби́мый», определив вид элемента – переулок.

2. Обнародовать (опубликовать) настоящее решение в газете «Слонімскі веснік».

3. Настоящее решение вступает в силу после его официального опубликования.

**Председатель** **О.М.Таргонский**



*Могілкі ў Альбярціне*

# Два горада ў Слоніме на карце




У 1812 годзе ў Парыжы была надрукавана “Карта еўрапейскай Расіі”. На ёй адлюстраваны і землі былога Вялікага княства Літоўскага. Даволі падрабязна на карце паказаная Слонімшчына — і населеныя пункты, і дарогі, і рэкі. Праўда, сам Слонім знаходзіцца выключна на левабярэжжы. А на правабярэжжы бачым іншы горад — Замосце (Самосце). Ён абазначаны таксама як Жыровічы. Вось такая неспадзяванка на старой французскай карце.

Першапачаткова і сапраўды маглі адначасова існаваць асобныя паселішчы на розных берагах Шчары. Але яны з часам зліліся ў адзін горад. Краязнаўца і археолаг Васіль Супрун (дарэчы, на сакавік прыпалі яго 95-я ўгодкі з дня нараджэння) лічыў, што першы слонімскі замак знаходзіўся на правабярэжжы. На адным з малюнкаў-рэканструкцый ён назваў яго Услонім. Гарадзішча на левабярэжжы Супрун пазначыў, відаць, умоўна, як Шару.

Паколькі ў XVI стагоддзі замак пабудавалі на левабярэжжы, і цэнтр Слоніма ўжо быў там, правабярэжжа сталі называць Зарэччам, а пасля — Замосцем. Але гэта не быў асобны горад, а толькі частка Слоніма.

●Сяргей Ёрш

*Схема ваколіц Услоніма ў XI стагоддзі (Згодна археалагічных даных). Малюнак Васіля Супруна*

# Татарская вуліца ў міжваенны час

Гэтыя здымкі знайшліся ў трэцім томе выдання "Rocznik tatarski", які выйшаў у 1938 годзе ў Варшаве. На іх бачым Татарскую вуліцу (цяпер — Кірава) ў Слоніме і яго жыхарак, якія сушаць цыбулю.

# Віртуальная рэканструкцыя сінагогі

ХРОНІКА



Створана VR-рэканструкцыя і віртуальны тур па слонімскай сінагозе. Гэта праект Цэнтра беларуска-яўрэйскай культурнай спадчыны ў партнёрстве з Гётэ-Інстытутам у Беларусі, паведамляе interfax.by.

Удзельнікі 15-хвілiннай віртуальнай экскурсіі ўбачаць храм такім, якім ён быў сотні гадоў таму. Наведаць яе можна з 1 да 14 красавіка на VR-экспазіцыі Belarus Shtetl у культурным цэнтры "Корпус" (Мінск, праспект Машэрава, 9/8). Час працы: ад панядзелка да суботы з 14-й да 20-й гадзіны, выходны — нядзеля. Экскурсія агучана на рускай і англійскай мовах.

# Караваева працуе над кнігай па гісторыі Слоніма

Пісьменніца Іаана Рыўз (Ілона Караваева), якая купіла сінагогу ў Слоніме, распавяла TUT.by пра свае планы.* Яна раіцца са спецыялістамі — за два гады мусіць быць падрыхтаваны праект па рэканструкцыі храма (ён будзе каштаваць каля 100 тысяч долараў), на саму рэканструкцыю даецца пяць гадоў (патрэбны будуць ужо мільёны долараў). Іаана Рыўз спадзяецца пасля адкрыцца фонду, сайта знайсці інвестараў і данатараў, бо такіх грошай не мае. Яна наракае на гродзенскіх чыноўнікаў, якія абяцалі дапамогу, а пасля не выходзілі на сувязь: *"Атрымліваецца, ім трэба было каму-небудзь аддаць гэты аб'ект. А цяпер... рабіце з ім, што хочаце".*

Падчас рэстаўрацыі яна хацела б арганізаваць магчымасць, каб турысты за ёй маглі назіраць. Плануе стварыць там музейную экспазіцыю пра трагічныя падзеі вайны на Слонімшчыне.

"Цяпер я працую над кнігай па гісторыі горада, — кажа пісьменніца. — Напісана першая частка. Магчыма, да часу завяршэння рэканструкцыі будуць гатовыя пяць частак. У апошняй будуць апісаны падзеі Халакоста падчас Другой сусветнай вайны".

**Мартинович Д. "За полтора месяца моё душевное рвение ушло в минус". Минчанка продала квартиру и купила синагогу // 2021, 3 сакавіка;*

*https://news.tut.by/culture/720268.html?c*

# Кніга-альбом




Сяргей Чыгрын выдаў у Мінску кнігу пра паэта і навукоўца Міколу Арочку (1930 — 2013). Атрымаўся ўнікальны фотаальбом пра жыццёвы шлях нашага земляка. Яго ўпрыгожваюць вершы Арочкі, напісаныя ў розны час.

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.